Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 11 сакавіка 1933 г.

№ 6.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 меяц — 40 грош.

# Памяці Вялікага Канцлера.

## *У 300-ыя угодкі сьмерці Льва Сапегі.*

7 ліпня 1633 году памер у Вільні канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега, і гэтак бягучы год зьяўляецца юбілейным для гэтага вялікага сына Беларусі: сёлета мінае роўна 300 гадоў ад дня сьмерці Сапегі. Беларускае Навуковае Т-ва першае зрабіла добры пачын ушанаваньня памяці Сапегі на ўрачыстым паседжаньні сваім 5 сакавіка. Дык гожа напомніць усяму нашаму грамадзянству аб заслугах Вялікага Канцлера перад нашым народам і нашым краем — супольнай бацькаўшчынай беларусаў і літвіноў.



Леў Сапега, патомак беларускага праваслаўнага роду з Смаленшчыны, радзіўся ў 1577 годзе ў двары Астраўку. Рос ён пры двары ведамага магната беларускага, Мікалая Радзівілла Чорнага, уславіўшагася сваей дзеяльнасьцяй на груньце пашырэньня ў Беларусі кальвінізму, які Радзівілл хацеў зрабіць нацыянальным вызнаньнем беларусаў. Стуль малады Сапега паехаў у Лейпцыгскі унівэрсытэт (у Нямеччыне), дзе студыяваў юрыдычныя навукі і філёзофію. А, скончыўшы навуку, вярнуўся ў родны свой край, каб служыць яму сваей ведай і сваімі выдатнымі здольнасьцямі.

Сьпярша Леў Сапега заняў становішча сэкрэтара Вялікага Княства Літоўскага. Але мірную працу яго прыпыніла хутка вайна, распачатая з Масквой. Сапега прыняў у ёй чыннае ўчасьце, сфармаваўшы на свой кошт гусарскі полк, і адзначыўся ў цэлым радзе бітв на ваенным полі. А як скончылася вайна, дык паказаў сябе і добрым дыплёматам: гэта ён езьдзіў на чале пасольства ў Маскву і падпісаў умову аб згодзе на 10 гадоў. Хутка пасьля гэтага бачым Сапегу ўжо на становішчы падканцлера Вялікага Княства, а далей — на становішчы канцлера.

Маючы ўладу ў родным сваім краю, Сапега паказаў, што ён быў добрым сынам Народу Беларускага і добрым грамадзянінам краю. У тым часе Беларуска-Літоўскае гаспадарства было ўжо злучана з Польшчай у адну дзяржаву, але ў унутраным сваім жыцьці кіравалася ўласнымі законамі, зьмешчанымі ў гэтак званым Статуце Вял. Кн. Літоўскага. Да Люблінскае вуніі (1569 г.), калі наступіла злучэньне Вялікага Княства з Польшчай, былі выдадзены два Статуты: у 1529 і 1566 г.г., пісаныя, як і ўсе дзяржаўныя дакумэнты ў нашым краі, пабеларуску. Пасьля Люблінскае вуніі Статут мусіў быць нанова перапрацаваны і датарнаваны да новых палітычных варункаў жыцьця краю. Гэту працу бліскуча выпаўніў Леў Сапега. І тут найлепш, найярчэй выя-

віўся гарачы патрыотызм Сапегі і яго цьвёрдае імкненьне бараніць самастойнасьць і інтарэсы Вялікага Князьства. Сапега проста адмовіўся ўвясьці ў Статут тыя законы, вымаганыя Люблінскай вуніяй, якія былі некарысныя для Вялікага Князьства. А пасьля ўласным коштам надрукаваў гэты Статут, напісаны, як і ранейшыя, у беларускай мове (1588 г.). У прадмове да Статуту Сапега ясна заяўляў, што лічыць сябе беларусам і за родную мову прызнае мову беларускую.

З цэлага раду пісем, захаваўшыхся дагэтуль і пісаных Сапегай да Крыштофа Радзівілла, відаць, як цяжка было Сапезе бараніць інтарэсы сваей бацькаўшчыны і свайго народу. Проці яго быў і караль, і тыя людзі, што кіравалі жыцьцём Рэчыпаспалітае. Але ні благія адносіны да Сапегі з боку караля, ані варожасьць палітычных праціўнікаў не маглі зламаць цьвёрдае волі Вялікага Канцлера. У кожнай справе, у якой магла вынікнуць шкода нашаму краю, ён хадаўся за сваё, на нікога не аглядаючыся. І хоць далейшы ход выпадкаў, ужо пасьля сьмерці Сапегі, давёў уканцы да занападу беларускае мовы і замены яе ў дзяржаўным жыцьці мовай польскай, хоць самастойнасьць Беларуска-Літоўскіх зямель абмежывалася што-раз болей і болей, — усё ж праца Сапегі значна задзержыла гэты сумны для нашага народу гістарычны працэс.

Змагаючыся за свой народ і самастойнасьць краю, Леў Сапега ня менш горача выступаў у абароне свабоды веры, што ў тыя часы вострае рэлігійнае барацьбы і рэлігійнага ўціску было рэдкім зьявішчам у высокіх урадоўцаў. Сапега ня мала прычыніўся да правядзеньня рэлігійнае вуніі на Берасьцейскім Сынодзе 1595 г., бо, як раней Мікалай Радзівілл у кальвінізьме, бачыў Сапега ў вуніі будучую нацыянальную царкву беларусаў, якая злучала бы ўвадно праваслаўных і каталікоў. Але, калі замест так пажаданае згоды на груньце вуніі толькі завастрылася яшчэ больш рэлігійная барацьба сярод беларускага народу, разьбіваючы яго нацыянальнае адзінства, Сапега рашуча выступаў супраць усялякіх гвалтаў, чыненых над праваслаўнымі, і ў ведамым пісьме сваім да Іозафата Кунцэвіча востра кляйміў палітыку гвалтаў і прымусовага наварачваньня праваслаўных на вунію. Не аб гэткай еднасьці лятуцеў Вялікі Канцлер, калі ў Берасьці падтрымліваў думку аб рэлігійным аб'яднаньні ўсяго Беларускага Народу...

Дзеяльнасьць Льва Сапегі была пранікнута такім гарачым патрыотызмам, такой любоўю да сваей бацькаўшчыны, такім пачуцьцём справядлівасьці і пашаны да чужое веры і нацыянальнасьці, што навет польскае грамадзянства, забыўшыся аб тым, што Вялікі Канцлер так рашуча змагаўся з імкненьнем Польшчы зрабіць з беларусаў сваіх „галадаўнікоў“ і пазбавіць Беларуска-Літоўскі край яго самастойнасьці, схіляе сяговьня сваю галаву перад вялікім нашым патрыётам і рыхтуецца да цэлага раду абходаў у 300-я ўгодкі сьмерці Льва Сапегі, адзначаючы яго высокую мудрасьць, як вялікага палітыка і дзяржаўнага дзеяча.

Ушануйце ж, беларусы, у сэрцах сваіх памяць Вялікага Канцлера!

## Падвойны юбілей.

5 сакавіка Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні зладзіла ўрачыстае паседжаньне сваіх сяброў і запрошаных гасьцей у сувязі з пятнаццацігодзьдзем існаваньня Т-ва і паміналаньнем памяці Вялікага Канцлера Льва Сапегі ў 300-ю гадавіну сьмерці яго.

У прыгожа прыбранай салі Беларускае Гімназіі—з вялікім партрэтам Сапегі (работа мастака П. Сергіевіча) над прэзыдыяльным сталом — сабраліся тыя з беларусаў, хто запраўды цікавіцца беларускай навуковай працай ці сам прыймае ў ёй учасьце. Апрача таго ў салі былі прадстаўнікі польскага, літоўскага і жыдоўскага навуковага сьвету. З польскае прафэсуры былі: праф. М. Зьдзеховскі, праф. Косьцялковскі, праф. В. Станевіч, кансэрватар д-р Лёрэнц, рэд. Л. Абрамовіч і інш. Літоўскае Навуковае Т-ва рэпрэзэнтаваў кс. Віскант, а Літоўскую Гімназію—дырэктар Шыкшніс. З маладых жыдоўскіх навукоўцаў быў гр. П. Кон. Апрача таго былі прысланы прывітаньні ад наступных асоб і устаноў: Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага (Львоў), украінскага Т-ва „Просьвіта“ (Львоў), кіраўніка беларускага аддзелу пры міністэрстве асьветы ў Латвіі гр. Ул. Пігулеўскага (Рыга), польскага Т-ва Прыяцеляў Навук (Вільня), Жыдоўскага Навуковага Інстытуту (Вільня), праф. Ганіша (Брэсляў—Нямеччына), кс. Ул. Талочкі і інш.

Урачыстае паседжаньне распачаў уступным словам старшыня Бел. Нав. Т-ва грам. А. Луцкевіч, які адзначыў вялікае значэньне засаваньня першае арганізацыі самастойнае беларускае навуковае працы, якім ёсьць Бел. Нав. Т-ва. Пасьля прачытаў справаздачу Ураду аб працы Т-ва за 15 гадоў сэкрэтар Ураду Т-ва д-р М. Ільяшэвіч.

Бел. Нав. Т-ва распачала сваю працу 15 гадоў назад захадамі над з'арганізаваньнем Беларускага Музэю дзеля пераховы і ўпарадкаваньня незвычайна цэннае зборкі памятак беларускае культуры, сабраных Ів. Луцкевічам і падараваных Т-ву. Аднача сна шмат працавала над устанаўленьнем беларускае навуковае тэрміналёгіі, над апрацоўкай і рэдагаваньнем беларускіх школьных падручнікаў — падставы нашых нацыянальных школ, ладзіла выстаўкі, публічныя лекцыі, навуковыя зборкі дыскусыйнага характару, публічныя абходы (у 400-я ўгодкі закладзінаў у Вільні друкарні Фр. Скарыны й надрукаваньня Літоўскага Статуту пабеларуску, у 500 ўгодкі сьмерці Вялікага Князя Вітаўта і інш.), выпускала брашуры, зьвязаныя з гэтымі абходамі, а сёлета прыступіла да выданьня свайго Гадавіка, у якім зьмя-

шчаюцца беларускія працы навуковага характару, напісаныя сябрамі й супрацоўнікамі Т-ва. Т-ва спадзяецца, што і ў наступныя гады будзе мець магчымасьць друкаваць у сваім Гадавіку плады працы на навуковай ніве беларускіх навукоўцаў.

Пасьля справаздачы былі прачытаны тыя з памянёных намі напачатку прывітаньняў, якія прыйшлі да адкрыцьця паседжаньня, а далей узяў слова грам. М. Шкелёнак, які прачытаў абшырны рэфэрат аб жыцьці і працы Льва Сапегі. Рэфэрат гэты сваім зьместам адпавядае працы грам. Шкелёнка аб Сапезе, якая друкуецца ў Гадавіку Бел. Нав. Т-ва і ка дню абходу выйшла ў асобнай кніжцы—адбітцы з Гадавіка, дык пераказваць яго ня будзем.

Урачыстае паседжаньне зачыніў старшыня Луцкевіч гарачай падзякай усім удзельнікам гэтае скромнае навуковае ўрачыстасьці, а перад усім — госьцям, прадстаўнікоў трох братніх народаў: польскага, літоўскага і жыдоўскага.

# Гаспадарчы аддзел.

## Найраньнейшыя працы ў садзе і гародзе.

**Працы ў гародзе.** Найраньнейшыя працы ў гародзе зьвязаны з вырашчываньнем раньняе расады, а такcама і з выганкай гароднiны ў парнiкох (інспэктах). Кепскія ўраджаі ў нашых вясковых агародах атрымліваюцца ня толькі з прычыны кепскай апрацоўкі глебы і гнаеньня, але ў вялікай меры і з прычыны позвае пасадкі. Раньняя пасадка ў гародзе можа быць толькі тады, калі мы загадзя выгадуем расаду. Раньняя расада вырашчываецца ў адпаведных расадніках або ў умеркавана цёплых ці навет халодных парнікох.

Пад расаднік адводзіцца адпаведны кавалак зямлі, абавязкова заслонены якою-небудзь будовай ад поўначы. Зямля ў расадніку гноіцца яшчэ з восені і тагды-ж зьверху прыкрываецца грубым пластам ліосьцяў ці чым-небудзь іншым, але так, каб зямля ў расадніку ў часе зімы не прамёрзла. Вясной, калі сонца пачынае добра прыграваць, лісьцё здымаецца. Паверхня зямлі выраўніваецца такім чынам, каб быў сільны нахіл на паўдзён, дзякуючы чаму зямля лепей выграваецца сонцам. Верхні пласт зямлі ў расадніку (10-15 цэнт.) павінен быць родзючы. Калі зямля ў расадніку прыгатавана, тагды яго засяваюць, уціскаючы зярняты ў зямлю дошчачкай. Пасьля таго, як насеньне ў расадніку прарасьце, расаднік у меру патрэбы паліваюць. Для забясьпечаньня ад халадоў, пасеў прыкрываецца яловымі галінкамі. Каб з большай пэўнасьцю забясьпечыць расаднік ад прымаразкаў, наўкола яго робяць скрыню, убіўшы на рагох калы і папрыбіваўшы да іх дошкі. Скрыня павінна мець зьверху папярэчыны, на якіх нанач расосьцілаюцца саломеныя маты.

Куды бясьпечней і раней можна выгнаць расаду, калі зрабіць умеркавана-цёплы парнік. Парнік такі робіцца, як звычайныя парнікі: капаецца яма каля 50 — 60 цэнтымэтраў, на дно ямы рыхла кладзецца конскі гной з такім разрахункам, каб пасьля таго, як сагрэецца і ўтопчацца, пласт яго быў каля 30 цэнтымэтраў. Калі гной у яме сагрэўся, яго раўняюць і ўтоптаваюць, а пасьля на яго ставяць скрыню, але так, каб бок яе, зьвернены на поўнач, стаяў вышэй ад боку, які зьвернены на паўдзён, і каб верхні край скрыні высоўваўся некалькі цэнтымэтраў над паверхняю зямлі. Потым у яму на гной насыпаецца зямля (інспэктовая) пластам 20—25 цэнтымэтраў. Нарэшце скрыня прыкрываецца шклянаю рамаю, а зьверху яшчэ матамі. Праз некалькі дзён, калі зямля сагрэецца, парнік можна засяваць.

**Працы ў садзе.** Надышоў ужо час, калі трэба рабіць зрэзы з галін пладовых дрэваў для будучага шчапленьня. Зрэзы трэба перахоўваць у лядоўні або пограбе, паўсаджваўшы да паловы ў вільготную зямлю. Найлепш зрэзы рабіць на паўднёвай і ўсходняй частцы кароны. Таўшчыня зрэзу павінна быць грубіні пяра, а сам зрэз павінен быць сільны і мець шмат добра разьвіненых пупышкаў. Што-ж тычыцца даўжыні зрэзу, то лепш зразаць галінку даўжэйшую (ня толькі аднагадовы гон, але трэба захапіць каля 2 цаляў і двухгадовага). Даўжэйшыя зрэзы лепш захоўваюць сьвежасьць, але перад шчапленьнем частку двухгадовую трэба адрэзаць. У канцы сакавіка і пачатку красавіка можна рабіць і самае шчапленьне. Вельмі карысна, калі загадзя прыступіць да зьнішчэньня гнёздаў шкоднікаў, а такcама да зрываньня з галінак колцаў шаўкапрада-калечніка. Ачышчэньне пня ад старое кары і бяленьне зьяўляецца такcама адным із радыкальных сродкаў у барацьбе з шкоднікамі саду.

## Дагляд за цельнымі каровамі.

Пасьля таго, як карова пабегае, у яе звычайна зьяўляецца вялікі апэтыт. Пабегаўшую карову ў першую чаргу трэба добра накарміць, бо інакай яна можа есьці падсьціл і іншыя прадметы, што можа зашкодзіць яе здароўю.

Апрача таго, калі жывёла добра ня корміцца пасьля таго, як пабегала, у яе значна спадае ўдой. Карову трэба добра карміць і то адпаведным кормам, бо ад кепскага корму могуць паўстаць розныя забурэньні ў жываце, што мае ад'емны ўплыў як на дойнасьць, так і на будучы плод. Найлепшым кормам у гэты час для каровы ёсьць пойла, зваранае з ільнянага семя і вотрубаў па роўнай частцы. Пасьля пойла карове даецца добрае мурожнае сена.

І ў далейшым часе жывёлу нельга пакінуць бяз руплівага дагляду, бо вялікі процант кароў перадчасна родзіць іменна з пры-

чыны неадпаведнага дагляду.

Цельную карову, асабліва ў другой палове цельнасьці, трэба трымаць па магчымасьці ў чыстай і сухой стайні. Заўсёды трэба старацца, каб хапала падсьцілу, катух ці стойла былі роўнымі, і ня было там ніякіх ям ні куч. Біцьцё і іншыя магчымыя ўшкоджаньні не павінны мець мейсца. Ня можна дапускаць, каб цельную карову абскокваў бык, бо і ад гэтага бываюць часта выкідышы.

Выкід плоду ў каровы можа выклікаць кепскі або сапсуты корм, а таксама і раптоўная зьмена кармоў. Калі здарыцца, што адна карова ў хляве выкіне плод, то тагды трэба абавязкова з гэтага хлява перавесьці ў іншае мейсца рэшту цельных кароў, бо выкідыш можа быць заразьлівы, і дзякуючы гэтаму могуць выкінуць плод і іншыя каровы. Пасьля выкідышаў у хляве трэба зрабіць абавязкова дэзынфэкцыю.

Ня меней, як за два месяцы перад цяленьнем, карова павінна запусьціцца, а калі гэтага няма, то мы мусімо запусьціць яе самі. У такім разе карове зьмяншаецца колькасьць малакагонных кармоў, як вотрубаў і асабліва карэньплодаў. Апрача гэтага карову трэба радзей даіць. Калі раней даілі 3 разы, то пры запушчэньні трэба даіць два, а пасьля і адзін раз у пару.

Часамі бывае, асабліва пры кармленьні малакагоннымі кармамі, што вымя ў каровы наліваецца загадзя яшчэ перад цяленьнем. Зьявішча гэтае непажаданае, бо калі вымя наліваецца перадчасна і яго ня здойваць, то можа наступіць запаленьне вымя, здойваць жа таксама кепска, бо тагды цяляці можа нехапіць малодзіва, якое новароджанаму патрэбна, як прачышчаючы сродак. Асабліва трэба ўважаць і часта заглядаць да стайні перад самым пародам, каб можна было своечасна прыйсьці к жывёле з дапамогаю.

**З. К.**

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Гадавы Агульны Сход Белар. Навук. Т-ва.** У нядзелю, 5 сакавіка, адбыўся гадавы агульны сход сяброў Бел. Нав. Т-ва. На сход прыбылі віленскія сябры, а такжа прадстаўнік навагрудчан гр. Цеханоўскі, дырэктар беларускае гімназіі ў Навагрудку.

З справаздачы старшыні Ураду гр. Луцкевіча выясьнілася, што за мінулы справаздаўчы год (1932) галоўнай задачай Т-ва была далейшая праца ў Музэі. Музэй робіць з кожным годам значны поступ, а ў 1932 годзе набыў цэлы рад вельмі цэнных рэчаў ды атрымаў багаты дэпозыт ад гр. Б. Данейкі (з Навагрудчыны). Закончана ўпарадкаваньне кніжак навуковага зьместу, быўшых у Музэйнай бібліятэцы, і распачата пераноска ў памяшчэньне Музэю 10 тысячнага кнігазбору (былае бібліятэкі „Знание"), які прадстаўляе ўласнасьць Таварыства, але быў дагэтуль у памяшчэньні і ў карыстаньні Беларускае Гімназіі. Грашавая справаздача Музэйнае Рады зьмяшчае ў даходах 5.849 зл. 38 гр. (у тым— дапамогі, ахвяры і выручка з продажы выданьняў, якія ёсьць на складзе Музэю); выдаткі-ж прадстаўляюцца гэтак:

| | |
|---|---|
| аплата памяшчэньня Музэю | —1.080 зл. 53 гр. |
| аплата працы паасобных супрацоўнікаў Музэю | —2.101 зл. |
| набываньне рэчаў для Музэю, работа шаф і вітрын, кошты пераховy | —1.100 зл. |
| оплата даўгоў з папярэдняга году | —1 350 зл. |
| выдавецкія выдаткі | — 153 зл. |
| дробныя выдаткі | — 40 зл. 82 гр. |
| разам | 5.825 зл. 85 гр. |

Астача гатоўкі на 1/I 1933 г. — 23 зл. 53 гр.

Музэй адведала за год звыш 500 асоб ды колькінаццаць экскурсіяў.

Па-за працай на гэтым груньце, Т-ва ў 1932 г. зладзіла 10 агульнадаступных навуковых лекцыяў. На-жаль, ад восені лекцыі мусілі спыніцца: з пераходам Беларускае Гімназіі ў рукі дзяржавы, Т-ва не магло ўжо карыстацца саляй Гімназіі, у якой вясной адбываліся лекцыі. Пры Т-ве працавала новазладжаная літэратурна-мастацкая сэкцыя. Апрача таго распачата праца над арганізацыяй гістарычнае сэкцыі і ўзнаўленьнем турыстычна-краязнаўчае сэкцыі.

Пасьля жывога абмену думкамі ўчасьнікаў сходу зрабіў даклад аб выніках рэвізіі грашовае гаспадаркі Т-ва старшыня Рэвізыйнае Камісіі гр. С. Кароль. Камісія, праверыўшы рахунковыя кнігі Т-ва і Музэю, сьцьвярдзіла, што ўсе выдаткі апраўданы дакумэнтамі і зроблены правільна.

Пры абгаварываньні пляну далейшае працы была кінена думка аб стварэньні пры Т-ве агульна-даступнае публічнае бібліятэкі, у якой былі-б усе беларускія кніжкі, а такжа кніжкі ў іншых мовах. Сход прызнаў гэта пажаданым.

У сувязі з тым, што за мінулы год асталося шмат нядоімак у ўзносе сяброўскае складкі, што зьвязана з асабліва цяжкім матэрыяльным палажэньнем усяе беларускае інтэлігенцыі, сход паставіў гэтых нядоімак за 1932 г. не спаганяць, але на 1933 г. з'арганізаваць зьбіраньне сяброўскіх складак часткамі, каб ня было вялікшых залегласьцяў.

Дзеля таго, што з складу Ураду, згодна з Статутам Т-ва, што-годна выходзяць на жэрабю два сябры яго, адбыліся перавыбары выбыўшых сёлета гр. гр. Астроўскага і В. Грышкевіча, а таксама трох кандыдатаў у сябры Ураду. Выбраны: гр. гр. Астроўскі і Цеханоўскі ў сябры Ураду, а ў кандыдаты—

гр. гр. В. Грышкевіч, М. Шкелёнак і Флёраў.

У склад Рэвізыйнае Камісіі ўвайшлі: гр. гр. С. Кароль, Сакалова-Лекант і У. Манкевіч.

**Гадавік Бел. Нав. Т-ва.** Друк Гадавіка значна пасунуўся наперад. Трэба спадзявацца, што гэтае цэннае выданьне выйдзе ў сьвет у канцы сакавіка.

**Лекцыя Хв. Ільяшэвіча.** 5.III. с. г. у Таварыстве Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце Ст. Баторага была прачытана студэнтам Хведарам Ільяшэвічам лекцыя на тэму: „Друкарня дому Мамонічаў у Вільні“.

**Беларускі Вечар.** Беларускі Студэнцкі Саюз ладзіць у нядзелю 12 сакавіка ў салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9) спэктакль-канцэрт. Пастаўлена будзе 2-актовая камэдыя Хвораста „На пэтыцкай вышыві“, а пасьля выступіць хор пад кіраўніцтвам гр. Шырмы. Пачатак у 8 гадз. Уваход толькі па запросінам.

## На правінцыі.

**Змагайцеся за душы моладзі!** (Карэспандэнцыя з м. Лужкоў). З якой прыемнасьцяй часам чытаеш вестку аб сваей старонцы, аб сваім краю, а тым больш цікавасьці, калі гэта вестка паходзіць з блізкай, знаёмай табе ваколіцы, або вёскі. Вось і мне захацелася што-колечы напісаць пра свае Лужкі; можа хтось прачытае, зробіць здаровадумную крытыку і задумаецца над так балючым пытаньнем.

Ня буду наваліваццa на ўсе тыя недастаткі, якія ў нас закараніліся, прынятыя, як спадчына, ад старэйшага пакаленьня; але зазначу, што мы за гэтыя недастаткі, слабосткі і нахілы нашых часта неакелзаных натур будзем адказнымі перад малодшым пакаленьнем, калі не пачнем энэргічна змагацца з сучаснай нашай дэмаралізацыяй.

Сягодня ў нас яшчэ многія пахваляюцца, калі дзе напіўся „как сьледуець“ і зрабіў нялюдзкі паступак, заехаў каму ў нюхаўку і г. п. (гэрой!). А дзеля таго, што ўпіцца патрэбны грошы, дык наша моладзь часта дапускаецца досі немаральных паступкаў. З паступкамі хлопцаў звыкаюцца і нашы дзяўчаты і нічуць ім не закідываюць за ненатычныя адносіны. Дубоўская баба (знахарка) не зьяўляецца сэкрэтам. Проста ўвайшла ў моду. Толькі чулыя сэрцам маткі і больш паважныя старэйшыя людзі безнадзейна з сумам качаюць галавамі.

Ведама, ня можна валіць усю віну на разгуляную, поўную энэргіі моладзь. Віна тут у адсутнасьці ўзгадаваньня, нястачы сваей роднай школы (прыклад вучаніцы з 7 кл.) і сваей культурнай арганізацыі з сваімі роднымі беларускімі асаблівасьцямі і абычаямі.

Польская культура к нашаму народу з яго беларускай адменнай душой — не прышчапляецца.

Дык бацькі, маткі, апякуны і дабрадзеі дый усе, каму блізкі сэрцу дабрабыт свайго пакаленьня, хто хоча памагчы выйсьці на дарогу сваей моладзі, западаючай усё глыбей у дрыгву! Хай кожын з вас зьверне ўвагу на сваю родную беларускую культуру і пашырае яе. Бо толькі родная культура падыме людзей і навуча шанаваць годнасьць чалавека як у другіх, так і ў самых сабе.

**Лужанін.**

## У Літве.

**І тут пачаўся разнабой!** Як мы ўжо неаднакротна падавалі, у Літве з леташняга году пачалася сярод беларусаў культурна-прасьветная работа. Стварылася Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва; з'арганізаваўся тэатр і хор; заклаўся ў Коўне беларускі народны унівэрсытэт і клюб. Пачалася работа і на правінцыі. Урэшце, каб з'арганізаваць усю беларускую меншасьць у Літве, пачалася падгатоўка да склікаьня на 26-ае лютага беларускага меншасьцёвага кангрэсу, які павінен быў утварыць беларускі нацыянальны камітэт. — Аднак, тут пачалася нейкая дзіўная гісторыя. Адзін з ковенскіх беларусаў, інжэнер Душэўскі (блізкі да беларускае Хадэцыі), які займае ў міністэрстве замежн. спраў становішча літоўскага ўрадоўца — „спэца“ ў беларускіх справах—і ад распачатае працы ад самага пачатку яе ўхіліўся, разам з ведамым літоўскім нацыянальным дзеячом Тадасам Івапоўскім на некалькі дзён перад кангрэсам склікалі сход ковенскіх беларусаў, каб, не чакаючы кангрэсу, стварыць беларускі цэнтр. Сабралося звыш 50 асоб, — але ініцыятары сходу заявілі, што права голасу будуць мець толькі тыя з прысутных, якім дадзены нейкія зялёныя картачкі. Такіх аказалася толькі 11 душ. Тады вялізарная большасьць прысутных, пазбаўленых голасу, заявіла свой пратэст і пакінула сход. Астаўшыяся Цэнтру не ўтварылі.

Хаця імёны гр. гр. Якавюка і Боева, якія бачым сярод пакінуўшых сход, выклікаюць і ў нас вялікія засьцярогі з беларускага нацыянальнага гледзішча,—аднак ёсьць там і ўсе тыя старыя актыўныя беларускія сілы, каторыя ўвесь час працавалі ідэйна і здаўна ведамы ў беларускім адраджэнскім руху. Дык увесь гэты інцыдэнт, які абедзьве стораны па розпаму асьвятляюць у ковенскай прэсе („Литовскій Курьер“ № 43), выклікае вельмі сумныя разважаньні, — тым балей, што пратэст проці паступаньня гр. гр. К. Душэўскага і Тадаса Івапоўскага падпісалі 39 асоб — ад імя Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Літве, Жаноцкага Дабрадзейнага Аддзелу гэтага Т-ва і Аб'яднаньня студэнтаў-беларусаў Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага.

Аб тым, ці кангрэс 26 лютага адбыўся і якія былі вынікі яго, пакуль што ня ведаем.

З заграніцы мы атрымалі камунікат, які тлумачыць акцыю грам. Душэўскага вельмі няпрыгожымі для апошняга матывамі. Ду-

маем, што кангрэс выясьніць гэта, як належыць.

## У Францыі.

**Т-ва ім. Б. Тарашкевіча.** З вестак, зьмешчаных у „Взрацьбе" (№ 1 — 1933), даведываемся, што ў Францыі, у Салёміне, існуе названае Т-ва, складзенае з беларускіх сялян і работнікаў — эмігрантаў з Заходняе Беларусі. Таварыства бурна агукнулася на прысуд над Тарашкевічам.

## У Бразыліі.

**Водгук працэсу Тарашкевіча.** Сярод беларускае работніцкае эміграцыі, згуртаванае ў Порто-Алегрэ пры таварыстве „Асьвета", прысуд над Тарашкевічам выклікаў вялікае усхваляваньне, што, як падае бэрлінская „Варацьба", выявілася ў адпаведнай рэзалюцыі.

# Юбілей праф. Зьдзехоўскага.

У гэтых днях былі адсьвяткаваны ў Вільні 50-я ўгодкі літэратурна-публіцыстычна-навуковай працы праф. М. Зьдзехоўскага, аднаго з найсьвятлейшых розумам і найшляхотнейшых сэрцам прадстаўнікоў польскай культуры.

Навуковай спэцыяльнасьцю праф. Зьдзехоўскага ёсьць літэратура славянскіх народаў, але вывучаў ён яе на фоне глыбака ведамай яму сусьветнай літэратуры і культуры. Праф. Зьдзехоўскі аднак не замыкаўся ў муры свайго вучонага габінэту. Ен шырака і горача адгукаўся на ўсе зьявішчы палітычнага жыцьця Эўропы, асабліва-ж у зьвязку з вызваленчым рухам славянскіх народаў да поўні самастойнага дзяржаўнага жыцьця. Праф. Зьдзехоўскі высоўваў ідэю „чэснага і справядлівага славянафільства" (любові да славянаў)—насупраціў ідэі старых расейскіх славянафілаў, якія, дамагаючыся вызваленьня з-пад улады туркаў і немцаў паняволеных імі славянаў, ня толькі ня думалі даваць волю „сваім" палякам і іншым народам, але лятуцелі яшчэ аб тым, каб усе „славянскіе ручьи слилися в русском морѣ"...

Шмат жару сэрца і сьвятла розуму аддаў праф. Зьдзехоўскі за свае жыцьцё справе вывучэньня і падтрыманьня вольнага духу славянскіх народаў: чэхаў, харватаў, славакаў, славенцаў, сэрбаў і баўгараў, а насамперш, ясна-ж, родных яму палякоў. Дык больш, чым дзіўна, тое, што ён цяпер — у вольнай Польшчы, калі яго вызвольна-славянскія ідэі і імкненьні блізу цалком ужо зьдзейсьніліся ў адносінах да ўсіх вышэй пералічаных народаў, астаецца неяк зусім раўнадушным, каб не сказаць значна сільней, да нацыянальна духоўнага адраджэньня і да такіх-жа вызвольных імкненьняў украінскага, а асабліва-ж — беларускага народу, народу, сярод якога, каб не сказаць — на зямлі якога, ён узрос, векавым мазалём якога створаны той дабрабыт яго бацькоў і дзядоў, што даў яму самому магчымасьць узыйсьці, не клапоцячыся аб кавалку хлеба, на тую зорную вышыню, з якой ён глядзіць цяпер на зямлю і бачыць, як жывога, Бога. Ці-ж з гэтай, можа аж залішне высокай вышыні ня відаць нашага шэрага сярмяжнага люду, ня чуваць зусім яго „гуканьня ясны" і — заклікаў аб помачы да добрых людзей і да Бога?!...

— —

У шчасьлівы юбілей праф. Зьдзехоўскага шчыра жадаючы яму многіх гадоў жыцьця і працы, чакаем нецярпліва, каб яго пекная ідэя аб „чэсным славянафільстве" раскрылася ў яго шляхотным сэрцы і сьветлым розуме да канца — у інтэгральнай поўні свайго разьвіцьця і роcквіту.



# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Забурэньне сярод студэнтаў.** У апошні час блізу ва ўсіх вышэйшых школах Польшчы адбыліся студэнцкія дэманстрацыі пратэсту проці прынятага парлямантам новага статуту для вышэйшых школаў, які значна абрэзвае іх „аўтаномію" (самаўрад), падпарадкаваючы органы іх упраўленьня міністру асьветы. Шмат дзе лекцыі часова прыпынены. Даходзіла й да вострых сутычак студэнцкіх натоўпаў з паліцыяў. Хваляваньні яшчэ не супакоіліся.

**Забастоўкі вуглякопаў.** З прычыны спробы ўласьнікаў вугальных капальняў зьменшыць плату вуглякопам, у цэлым радзе вугальных раёнаў распачаліся хваляваньні, якія выліліся ў форме забастоўкі. Забастоўка наагул праходзіць спакойна.

## За граніцай.

**Трывога ў Гданску.** Польскае Тэлеґр. Агенцтва паведаміла, што ў апошні час нейкімі праступнымі людзьмі рыхтуецца напад на польскія ваенныя склады ў Гданску, якія ахоўваюцца нязначным атрадам войска.

Дык польскі ўрад 6 сакавіка загадаў часова паялічыць гэты атрад, аб чым і падаў да ведама высокага камісара Лігі Нацыяў.

**Перамога Гітлера ў Нямеччыне.** Калі ў Нямеччыне да ўлады, дзякуючы прэзыдэнту Гіндэнбургу, дарваліся ўрэшце гітлераўцы дый распусьцілі парлямант, дык можна было наперад сказаць, якія яны будуць „рабіць“ выбары. І запраўды-ж—тое, што рабілася ў Нямеччыне ў апошнія дні выбарнае кампаніі, не здаралася хіба-ж ніколі і нідзе. Гітлер заявіў, што выбары — гэта для яго толькі чарговая фармальнасьць: ці ён атрымае большасьць, ці не, гэта ня зьменіць палажэньня, бо ўладу ён узяў моцна і ня выпусьціць яе з рук, якія-б вынікі выбараў ні былі. Мэта яго—**зьніштожыць цалком усялякі марксізм у Нямеччыне, хаця-б навет шляхам зьніштажэньня ўсіх „марксістаў“.** Гэта значыць, што ён мае „зьніштожыць“ ня толькі камуністаў, але і соцыял-дэмакратаў, найпаважнейшую, **найбольш дзяржаўна-адказную партыю ў Нямеччыне,** якая несла на сваіх плячох цяжар дзяржаўнай працы ў найцяжэйшыя гады пасьля вайны—у працягу блізу 15 год. Ясна, што пагроза гэтая—пустая. Але Гітлер пусьціў у ход усё, каб выбарную кампанію ператварыць у запраўдную **хатнюю вайну.** Былі зачынены блізу ўсе ня толькі камуністычныя, але і соцыял-дэмакратычныя газэты і партыйныя пункты, арыштаваны найвыдатнейшыя правадыры абедзьвюх марксіцкіх партыяў, спынена для іх абедзьвюх блізу ўсялякая магчымасьць выбарнае працы. Але, каб ужо цалком сабе разьвязаць рукі, гітлераўцы **падпалілі вялізарны гмах нямецкага парляманту,** які цяпер ляжыць у руінах, дый абвінілі ў падпале ня толькі камуністаў, але і соцыял-дэмакратаў! Правакацыя аднакжа выкрылася вельмі хутка, дык уся эўрапэйская прэса адкрыта піша аб гэтым, не даючы ніякай веры афіцыяльным запэўненьням нямецкага ўраду. Запраўды-ж—на такі „прадвыбарны“ фортэль маглі наважыцца толькі гітлераўцы: навет камуністы, прынамся нямецкія, не паднялі-б рукі на парлямант, які толькі й дае ім магчымасьць мець голас у краі.

Пры такіх варунках адбыліся ўрэшце выбары.

„Бліскучая перамога“ Гітлера ня зьдзівіла зусім наглядчыкаў нямецкага жыцьця: і нячуваны выбарны тэрор, і вера бяскрытычных народных масаў у Гітлера далі яму **17 з чверцяй мільёнаў галасоў,** на 6 мільёнаў болей, як на папярэдніх выбарах.

Калі да гэтай лічбы дадаць 3 з гакам мільёны, здабытыя так-зван. „чорна бела-чырвоным блёкам“ Папэна і Гугенбэрга (нацыяналісты-монархісты), дык „супалка“ Гітлер-Папэн-Гугенбэрг мае ўжо **абсалютную большасьць мандатаў у парляманьце.** А ўсё ж трэба дзівіцца сіле і стойкасьці ўсіх опозыцыйных партыяў, якія **блізу ўсе утрымалі свае лічбовыя пазыцыі ў парляманьце.**

Соцыял-дэмакраты страцілі толькі адзін **мандат і будуць мець 120 паслоў;** камуністы страцілі найбольш: каля 2 мільёнаў галасоў і 21 мандат, але ўсё-ж будуць мець у парляманьце **79 паслоў;** каталіцкі цэнтр страціў толькі 1 мандат і будзе мець 70 паслоў; **чорна-бела-чырвоны блёк** здабыў 1 мандат, будзе мець **52** паслоў; баварскія людоўцы выйшлі з бою без пераменаў—будуць мець, як і мелі, 20 паслоў. Гітлераўцы, урэшце, „здабылі“ **92 новыя мандаты** і будуць мець аж **288** паслоў.

Разам **урадавы блёк**—на агульную лічбу каля 640 паслоў—будзе мець **большасьць каля 340 паслоў.**

Атрымаўшы „вольную руку“, Гітлер пачне цяпер „курадесіць“ ва-ўсю...

**Гітлераўцы „працуюць“.** З цэлага раду мясцоў Нямеччыны ідуць весткі аб тым, што гітлераўскія штурмовыя колёны займаюць гвалтам гмахі мясцовых радаў і магістратаў.

**Жыды з Нямеччыны масова ўцякаюць.** Газэты пішуць, што жыды з Нямеччыны масова ўцякаюць, бо гітлераўцы страшэнна перасьледуюць жыдоў, вінавацячы іх у-ва ўсіх бедах Нямеччыны (?). Шмат жыдоў, якія некалі выехалі ў Нямеччыну з Польшчы, варочаецца назад у Польшчу.

**Поўная незалежнасьць Ірляндыі ад Англіі.** Ірляндзкі парлямант 75 галасамі проці 59 прыняў прапазыцыю ўраду аб **скасаваньні прысягі на вернасьць каралю Англіі.** Такім чынам—апошні сьлед залежнасьці Ірляндыі ад Англіі зьнікнуў.

**Памёр Родічев.** 3 сакавіка ў Лёзаньне памёр ведамы дзеяч расейскага вызвольнага руху Фёдор Ізмайловіч Родічев, адзін з найвыдатнейшых сяброў Дзяржаўнай Думы, сябра партыі народнай свабоды (кадэтаў). Нябошчык адзначаўся красамоўчым дарам рэдкай сілы, выступаючы, як „рыцар права і свабоды“, проці ўсялякага гвалту. Шчыра сымпатызаваў вызвольна-нацыянальным рухам і імкненьням розных народаў былае Расеі. Ён без усялякіх „варункаў і засьцярогаў“ выступаў за дзяржаўнае вызваленьне Польшчы і вітаў шчыра нацыянальнае адраджэньне беларускага народу. Хай-жа будзе лёгкай яму зямля на чужыне.

**Крызіс у Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі.** Амэрыка перажывае нябывалы фінансавы крызіс, які пагражае блізу крахам яе валюты. Здавалася-б, непахільны, як мур, даляр, які даўно стаўся запраўднай сусьветнай валютай з прычыны сваей „цьвёрдасьці“, цяпер хістаецца і спадае на курсе. З агульнай лічбы 48 злучаных штатаў (дзяржаваў) Паўн. Амэрыкі ў 47 штатах уведзены **мораторыум,** гэта значыць прыпынены частковa выдачы грошаў па ўкладам і інш. падобныя опэрацыі. Амэрыканскі ўрад навет забараніў вываз золата, бо яно пачало ўцякаць з краю. **Даляру пагражае інфляцыя,** добра ведамая нам усім хвароба былае маркі польскае—„пухліна“, ці „вадзянка“ валюты. Дайшла ўрэшце і на Амэрыку кара — за тое, што стварыць дабрабыт толькі для сябе —

коштам усіх іншых краёў; вось яна і заразілася ад іх валютнай хваробай!...

**Японска-кітайская вайна.** „Вайна без вайны“ паміж Японіяй і Кітаем разгарэлася ваўсю, але хіба ж і — дагарае... Ня гледзячы на страшэнны апор кітайскіх войск, японцы, дзякуючы сваей вышэйшай ваеннай тэхніцы, асабліва бомбавым аэраплянам, выпаўнілі блізу цалком усе свае ваенныя заданні і занялі правінцыю Джэхоль, якая зьяўляецца „ключом“, ці „брамаю“ да Манджурыі з паўночнага Кітаю. Некалькі кітайскіх генералаў разам з іх часьцямі перакінулася на японскі бок у часе рашучых баёў за Джэхоль, здрадзіўшы гэтак нацыянальную справу!. Японскі міністар заявіў, што далей Джэхоля японцы ня пойдуць, хіба-ж іх на гэта справакуюць самі кітайцы... Такім чынам, лягчэй усяго спадзявацца хуткага канца вайны. Японія ня хоча зашмат дражніць вялікія дзяржавы і будзе толькі цішком „ператраўліваць“ захопленую тэрыторыю.

Што да Лігі, дык яна так і астанецца з сваім пратэстам проці японскага гвалту над сябрам Лігі, бо ніякіх „караў“ Японія не баіцца, дыйніводзін з найбольш важнічых сябраў Лігі, навет у саюзе з магутнай Амэрыкай, не рызыкне на вайну з Японіяй. Праўда, Англія з Фрянцыяй зрабілі „шляхотны жэст на карысьць міру“: забаранілі вываз амуніцыі з сваіх краёў на тэатр ваенных падзеяў. Але гэты „шляхотны жэст“ —адна агідная мана! Першае — Кітай ад гэтае забароны пацерпіць страшэнна, але Японія — нічуць, бо мае сваю вялізарную ваенную прамысловасьць, а Кітай блізу што ня мае ніякай. Апроч таго, „забарона“ наступіла ўжо пасьля таго, як Японія падпісала ўмовы з англійскімі ды францускімі фабрыкамі амуніцыі, а на гэтыя ўмовы, як ранейшыя, „шляхотная“ забарона сілы ня мае!..

## Паштовая скрынка.

**Усім нашым чытаром.** Чытайце і распаўсюджвайце наш часопіс. Але не забывайцеся, што выданьне яго каштуе грошы. Нашаму жаданьню выдаваць яго часьцей і павялічыць яго разьмеры кладзе рубеж недахоп грошаў. Адзіная рада на гэта—падтрыманьне свайго часопісу падпіскай. Калі аднаму заплаціць 2 зл. за паўгоду цяжка, рабеце складкі. Кожная вёска можа налічыць у сябе 10 сьведамых беларусоў, якія, даўшы па 20 гр. раз у 6 месяцаў, могуць мець спакойнае сумленьне і сьведамасьць, што дзейна падтрымалі свой часопіс.

Без такога падтрыманьня часопіс ніколі ня стане на цьвёрдыя ногі. Толькі тады наш часопіс здолее стацца вялікай шматводнай ракой,—вялікім выгадным шляхам духоўнае камунікацыі для народу, калі ў яго будуць бясьпынна ўлівацца з усіх бакоў малыя, дробныя ручайкі. Бяз гэтага рака перасохне, абмялее, і шлях гэты загіне...

Ведаем, што на вёсцы грош — на вагу золата. Але бязьлітасная статыстыка кажа, што наша вёска, праўда, менш, як яшчэ нядаўна, але ўсё ж аж залішне многа п'е гарэлкі выкідаючы гэтаму „страшнаму ворагу“ народнага духа мільёны злотых у год... Недапіце толькі якіх там пару вёдзер у месяц, і наш—ваш часопіс зацьвіце краскамі, закалосіцца збожжам, заблішчыць сонцам і зорамі, адбіваючы ў сабе ўздым вашага духа, жыцьцё і хараство вашае ўласнае душы, працнуўшаеся для красы, праўды і вашага ўласнага шчасьця.

**Сакратарыят Т. Б. А.**
**і Рэдакцыя „Роднага Краю“.**

**Гр. П. Дзярэчын.** ТБА якраз ладзіць шырокую працу па адчыненьні бібліятэкаў. Кніжкі даем дарма. Падайце аб сабе дакладныя весткі, калі маеце самі вясьці бібліятэку.—Трэба зацьвердзіць вас формальна. Высылаем 2 экз. газэты. Прыдбайце яшчэ падпішчыкаў — на наст. месяц вышлем больш. **Гр. Булаўскаму**—в. Малышава. Просьбу вашую прымаем да ведама. Зробім усё формальна — тады ніякіх непаразуменьняў ня будзе. Дакладней напішам лістам.

**Рыгору Томчуку,** в. Андрыянкі, пошта Бочкі, пав. Бельск-Падляскі. Грошы (1 зл.) праз кнігарню атрыманы. Часопіс высылаецца. Просьбу вашую аб беларуск. часопісах споўнім. Апроч нашага „Роднага Краю“, у Вільні выходзяць наступн. часопісы: „Новая Варта“, „Самапомач“, „Нёман“, „Шлях моладзі“, „Хрысціянская Думка“ і газэта „Крыніца“.

У восені запраўды, як вы чулі, зроблена была спроба выдаваць яшчэ два часопісы. Але адзін з іх („Наш Шлях“) па выхадзе двух нумароў быў сканфіскаваны, а другога, („Наш Палетак“), як чутно, значна паважнейшага, першы нумар неяк ня можа выйсьці з друкарні. Калі выйдзе, падамо ваш адрас і яму.

**Гр. Канапельцы,** маёнт. Сьпягліца, Вішнеў к. Сьвіра. Вашу заяву атрымалі. Нажаль уся справа з зацьверджаньнем кандыдатаў яшчэ не закончана. Вельмі нас цешыць нецярплівая гарачыня ды смага да чытаньня кніжак у жыхароў вашае ваколіцы, але хай яшчэ крыху пачакаюць — ня з нашае прычыны затрыманьне. Што датычыць шафкі, дык ці-ж ня знойдзецца на месцы якога столяра, каб яе зрабіць. Трэба старацца ўсё, што можна, рабіць і здабываць намесцы.

На падпіску газэты атрымана—ад гр. гр. **Паўлы Сьвірыда**—3 зл. 50 гр.; **Н. Крыўко**—1 зл. 30 гр.; **Язэпа Вортніна**—2 зл. **Тад. Іваноўскага**—2 зл.; **Б. Лугі**—3 зл.; **Яна Пятроўскага** з Дзярэчына—1 зл.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22